


**На ёлцы ў БГКТ.** **Чытай на ст. 6-7.** **Фота Я. Цялушэцкага.**

**№ 5 (888) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 2.II.1975 г.**




# СЫНОК-З-КУЛАЧОК

**(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА)**

Жылі дзед і баба. І быў у іх сынок. Ды такі малы, што з-пад шапкі не відаць. Не больш за кулак. Так дзед з бабай і звалі яго: сынок-з-кулачок.

Паехаў аднойчы дзед араць, а бабе сказаў, каб згатавала абед ды прынесла яму ў поле.

Баба згатавала абед ды кажа да сына:

— Каб ты быў большы, дык занёс бы бацьку абед за мяне. А так мне самой трэба ісці.

А сынок падхрабрыўся і кажа:

— Давай, мама, занясу абед.

— Дзе табе данесці яго? — не верыць маці.

— Данясу.

Узяў сынок-з-кулачок абед, паставіў у дзедаў лапаць, сам ззаду сеў і паехаў.

Едзе сабе і песенькі спявае. Прыехаў на поле, гукае бацьку:

— Тата, я табе абед прывёз!

Убачыў яго бацька, зарадаваўся:

— Малайчына, сынок!

Сеў ён абедаць, а сын кажа:

— Тата, пасадзі мяне на саху, я араць буду.

— Як жа ты будзеш араць?

— А паглядзіш, — кажа сын.

Пасадзіў яго бацька на саху. Сынок-з-кулачок узяў лейцы ў рукі і крыкнуў на каня:

— Но, сівы-буры!

І пачаў араць.

Ехаў дарогаю пан у брычцы. Убачыў ён такое дзіва.

— Прадай, дзед, мне свайго аратага, — кажа пан.

— Не, пане, не прадам: гэта мой сынок.

А пан прычапіўся, як смала: прадай ды прадай!

— Я табе, — кажа пан, — дам шмат грошай.

Пачуў гэта сынок, падбег да бацькі і шэпча яму:

— Прадавай, тата, толькі вазьмі ў пана за мяне жменю золата. Не бойся, я ад яго ўцяку...

Згадзіўся дзед і прадаў пану сына за жменю золата.

Узяў пан хлопчыка, пасадзіў у кішэню і паехаў. «Вось, — думае, — добрага аратага нажыў. Гэтакага ні ў каго няма. Няхай зайздросцяць мне ўсе паны!»

Тым часам хлопчык прадраў панскую кішэню, цішком вылез з яе ды выскачыў з брычкі.

Агледзеўся хлопчык, аж кругом яго густы лес.

Пахадзіў ён, пахадзіў па лесе і заблудзіўся.

А тут і вечар настаў. Сеў ён пад елкаю і плача.

Адкуль ні натрапіўся галодны воўк. Схапіў ён хлопчыка і праглынуў яго.

Апамятаўся хлопчык, пачаў ён брыкацца ў воўчым жываце, пачаў крычаць:



— Гэй, воўк, нясі мяне дахаты!
— Не панясу, — кажа воўк.
— Нябось, панясеш, як надакучу табе.
— Паглядзім, — агрызнуўся воўк і пабег у поле шукаць авечак.

Прыбягае да чарады авечак, а хлопчык як крыкне з воўчага жывата:
— Гэй, пастухі, воўк па авечкі крадзецца!

Пачулі гэта пастухі, прагналі злодзея. Ды яшчэ і сабак нацкавалі на яго.

Прыбег воўк у лес і кажа хлопчыку:
— Вылазь вон!
— Не, не вылезу, — адгукаецца хлопчык. — Нясі мяне дадому.
— Не панясу! — злуецца воўк.

Выгаладаўся воўк ды зноў пайшоў шукаць спажывы. Але куды ні прыйдзе, усё няўдача: не дае яму хлопчык спакою.

Зусім схуднеў воўк, ледзьве ногі цягае. А хлопчык усё сваё права правіць:
— Нясі мяне дадому!

Бачыць воўк — няма рады: панёс хлопчыка дадому.

Прынёс да двара і кажа:
— Вылазь. Вунь твая хата.
— Не, — адказвае хлопчык, — нясі ў двор.

Прынёс яго воўк у двор і зноў крычыць:
— Вылазь!
— Не, нясі ў сенцы.

Прынёс яго воўк у сенцы.

Тут хлопчык выскачыў вон ды як закрычыць:
— Тата, хадзі ваўка біць!

Выбег бацька з качаргою і забіў ваўка. Шкуру злупіў і бабе футра пашыў. А баба сасмажыла за гэта дзеду і сынку гуся.

Тут і казка ўся.

Л. Танкевіч

## ГАДЗІННІК

Мой гадзіннік — ветэран
Колькі год — не знаю.
Мае шмат іржавых ран,
Хоць іх выціраю.

Бо яго насіў мой дзед
Жартаўнік вусаты.
Не адзін зрабіўся след,
Як хадзіў у таты.

А цяпер, як талісман,
У маёй кішэні.
Для мяне ён як экран,
Што ляжыць у жмені.

Ды які я гаспадар,
Не паверыш, тата.
Нашу толькі футарал
З жоўтым цыферблатам.

## ВЕЦЕР-ВЕЦЯРОК

Ой ты, вецер-вецярок,
хіба вееш незнарок,

як падзьмуў — апаў лісток,
апусціўся на масток,

потым зноў падняў яго,
закруціў мацней кругом

і ў парыве, на ходу,
кінуў проста у ваду.

**Макар Паслядовіч**




**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Аднойчы Сашка вяртаўся са школы пасля поўдня. Хлопца радаваў чысты снег, абсыпаныя пышным інеем дрэвы, тонкія празрыстыя хмаркі ў небе. Сонца пачало хіліць на захад. Сашка паглядзеў на яго і застыў у нерухомасці. Захінутае лёгенькай пасмай, яно зусім не сляпіла вочы. Вельмі выразныя, нібы абведзеныя вострым цыркулем, былі відаць яго краі. А вакол літога белага дыска ціха праменілася ружовым святлом пышная карона.

Такое Сашка бачыў упершыню за сваё жыццё.

І ў гэтую хвіліну Сашка пачуў яханне ганчакоў. Яны лементавалі ў старым бары, потым каля маладога сасонніку. Сашка зірнуў у той бок, і сэрца яго сціснулася ад жалю. Па лузе, уцякаючы ад неадчэпных ганчакоў бег заяц. Ён, відаць, быў ужо добра стомлены. Адлегласць паміж ім і ворагамі скарачалася.

Раптам заяц на момант прыпыніўся, стаў на заднія лапкі, застрыг у паветры вушамі.

— Уцякай! — не памятаючы самога сябе, крыкнуў Сашка. — Хіба не бачыш? Яны ўжо блізка!

Заяц нібы пачуў яго заклік і перад самым носам ганчакоў крута павярнуўся і рвануўся ў бок цялятніка. Сашка кінуўся наперад і прыадчыніў вароты. Заяц, нібы гэта было яму не ўпершыню, ускочыў у іх праём. Толькі цяпер згледзеў Сашка, што гэта яго Лапавушкін.

Сабакі лемантавалі ўжо на падворку. Сашка зачыніў вароты. Сабакі, не звяртаючы на яго ўвагі, пачалі кідацца на вароты, драпаць іх кіпцюрамі. Сашка схапіў дручок і кінуўся малаціць сабак. Яны заскавыталі, але не адыходзілі далёка ад цялятніка.

— Дзе мой заяц? — пачуўся раз'ятраны голас. — Навошта ты б'еш маіх сабак?

Сашка азірнуўся. Перад ім са стрэльбай напагатове стаяў Васіль Хмыз, паляўнічы.

— Адчыняй цялятнік! — загадаў ён хлопцу.

— Не адчыню.

Хмыз рашуча ступіў наперад, узяў Сашку за каўнер і штурхнуў убок. Сашка паляцеў потырч, моцна выцяўся, але адразу ж усхапіўся на ногі і крыкнуў у роспачы і крыўдзе:

— Не маеце права!

— Буду я ў цябе пытацца!

Хмыз вылаяўся, ірвануў за палавінку варот і ступіў у цялятнік. Тады Сашка ліхаманкава зачыніў дзверы і засунуў жалезную завалу.

Прагавіты Хмыз апынуўся ў пастцы. Дарэмна ён прасіў, пагражаў, лаяўся. Дарэмна прыглядаўся ў змроку, дзе прытаіўся Лапавушкін.

Сабакі, чуючы, але не бачачы гаспадара і яго ахвяру — зайца, пакрыўджана скуголілі і кідаліся на вароты.

— Гэй, хто там? — ад часу да часу гукаў у дзверы Васіль Хмыз. — Адчыняйце!

Праходзіў непадалёку з каніс-

трай Антон Васкрабовіч, трактарыст і першы зласмешнік. Пачуўшы лямант, завярнуў да цялятніка і запытаўся:

— Хто там?

— Гэта я, Васіль Хмыз, — узрадаваўся няўдалы паляўнічы. — Хутчэй адчыні.

— А як ты трапіў туды? — здзівіўся трактарыст. — На варотах жа вісіць замок!



— Замок? — не паверыў Васіль Хмыз. — Калі ён яго павесіў?

— Хто? Мікола?

— Не, яго ўпраўны сынок. Здаецца, Сашка. Гэта сюды мае ганчакі прыгналі здаравеннага лапавухага. Я ўскочыў каб забраць яго, аж чую, як за мною бразнула завала. Хутчэй, братачка, адчыняй.

— Дык жа ў мяне няма чым адамкнуць, — нібы з жалем прамовіў трактарыст і запытаўся зацікаўлена: — А заяц там? Можа той, з разарваным вухам?

— Ага, — нехаця адказаў з-за дзвярэй Васіль Хмыз. — Затаіўся тут недзе сярод цялят. Але я яго выпару.

— Ты хоць цялят там не пастраляй. Яны чыстапародныя. Дарага яны табе абыдуцца. А за Лапавушкіным ты дарэмна ўлягаеш. Гэта не заяц, а прафесар. Заўсёды, калі нявыкрутка, бяжыць да людзей. Яго тут усе ведаюць. Ну, бывай, брат, здаровы. Пайду скажу Мікалаю, каб выпусціў цябе на волю.

Васкрабовіч пайшоў. Сабакі зноў забрахалі і заенчылі каля варот. Да цялятніка падыходзілі новыя людзі. Пачуўшы лаянку і просьбы Васіля Хмыза, распытвалі, як ён апынуўся за замкнёнымі варотамі. Васіль Хмыз, можа, у шосты ці сёмы раз расказваў, як ён следам за гэтым праклятым касавокім уляцеў у цялятнік і Міколаў сын, Сашка, зачыніў за ім вароты.

Васіль Хмыз аж ахрып, просячы, каб яго выпусцілі.

— Няма, брат, ключа, — адказвалі яму знадворку. — Трэба сказаць Мікалаю. Ён тут гаспадар.

Нарэшце, калі ўжо добра сцямнела, з'явіўся Мікалай. Ён адчыніў вароты і выпусціў Хмыза на свежае паветра.

На небе ўжо ярка зіхацелі далёкія зоркі. Мароз мацнеў. Відаць, нездарма выбліснула сёння сонечная карона, якую ўбачыў Сашка. А можа яе і не было, можа яму толькі здалося? Мікалай думаў і радаваўся, што ў яго расце добры сын. Ён любіць усё жывое. Ён хоча, каб усё навокал было прыгожым і добрым.



**Удзельнікі конкурса «Што ведаеш аб сваім горадзе?»**



# НА ЁЛЦЫ Ў БГКТ

На працягу студзеня ва ўсіх школах, ва ўстановах і на фабрыках адбываліся вясёлыя ранішнікі для дзяцей пры ёлцы. Усюды было весела і прыемна. Дзеці самі рыхтаваліся да свайго свята, развучвалі вершы і песні, вясёлыя сцэнкі, каб у святочным настроі сустрэць дарагога госця, які прыходзіць да нас толькі раз у год ды яшчэ з цэлым мяшком падарункаў.

У гэтым годзе «Зорку» запрасілі да сябе дзеці членаў Беларускага таварыства — жыхароў Беластока. Ёлка адбылася ў гарадскім аддзеле БГКТ.

Аб тым, як было прыемна, вы можаце пераканацца, глянуўшы на фатаграфіі. Дадам толькі, што забава пачалася вясёлымі танцамі пад гукі аркестра. Вялі забаву дзяўчаты, будучыя выхавацелькамі прадшколля. Яны навучылі дзяцей спяваць розныя песні, разам танцавалі і спявалі.

Адбылося шмат цікавых конкурсаў: старэйшыя дзеці ўдзельнічалі ў конкурсе «Што ведаеш аб сваім горадзе?», малодшыя змагаліся, хто далей дзьмухне шарык з ваты, перанясе з завязанымі вачыма прадметы з аднаго крэсла на другое, гулялі ў ката і мышку. Усім гэта вельмі спадабалася. Каб дзеці маглі трошкі адпачыць, іх запрасілі на чай з пончыкамі.

А потым... Потым усе дзеці гульнёй «Ракета» і ручным «Ур-р-ра!» сустрэлі дзеда Мароза з падарункамі. Дзед Мароз адразу захацеў даведацца, як дзеці жывуць, ці ўмеюць спяваць і танцаваць, ці

слухаюцца сваіх бацькоў. На ўсе гэтыя пытанні дзеці старанна адказвалі. Дзед Мароз прызнаўся таксама дзецям, што чакаў ад іх пісем з заказамі, што хацелі б атрымаць у падарунку, але не дачакаўся. «Відаць, — сказаў Дзед Мароз, — не ўсе дзеці ведаюць, што трэба намаляваць на лістку паперы цацку, якую дзіця хоча атрымаць, пакласці лісток у канверт і напісаць такі адрас: «Блакітнае неба, Белая хмарка № 9, Дзеду Марозу». Пісьмо трэба аддаць маме, каб выслала». Дзеці абяцалі, што на будучы год абавязкова выканаюць просьбу дзеда Мароза.

Дзеду Марозу вельмі спадабалася, як спяваюць дзеці ў Беларускім таварыстве. Вельмі прыгожую песеньку заспяваў Дарэк Ясінскі, а потым адбыўся нават конкурс песні, у якім удзельнічалі Ася Зенюк, Юрка Несцярук, Збышэк і Андруша Сканечныя і Аля Гаўрылюк. Пад агульныя апладысменты малых гледачоў выйграла конкурс Аля Гаўрылюк, якая спявала па-беларуску песню «Едуць возы».

Кожнае дзіця атрымала падарунак ад Дзеда Мароза: цукеркі, шакаладкі, яблыкі і шмат іншых ласункаў. (яч)



**У перапынку паміж танцамі дзеці пілі чай з пончыкамі.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

# Вясёлы куточак

* ❊ *

— Чаго плачаш, Янка?

— Бо мой тата зваліўся з каня.

— Не плач, яму ж нічога кепскага не сталася!

— Я ведаю. Але ўсе, хто бачыў, моцна смяяліся, а мяне якраз пры тым не было...

* ❊ *

Лена робіць дамашняе заданне па геаграфіі.

— Мамачка, ці дакладна ведаеш, дзе ляжыць Аргентына?

— Не ведаю, дачушка, не ведаю...

— А што будзе, калі мяне заўтра настаўніца запытае? Вельмі цябе прашу, прыпомні...

— Сапраўды не ведаю, Леначка...

— А ці ты ўяўляеш, што гэта будзе за ганьба, калі перад цэлым класам трэба будзе сказаць, што ты не ведаеш?!

## А·д·г·а·д·а·н·к·а



Марынка расставіла на стале флаконы з галінкамі ў форме трохвугольніка. А вы паспрабуйце так паставіць тры флаконы, каб форма трохвугольніка захавалася.

**«Пломіо»**

## Пазнаёмімся

Дарагая рэдакцыя «Зоркі». Надрукуйце, калі ласка, мой адрас, я вельмі хачу, каб да мяне напісаў хлопчык ці дзяўчынка па імені Жэня (Яўгеній ці Яўгенія). Мае сябры перапісваюцца з дзецьмі з Польшчы, Венгрыі і іншых краін. Я таксама хачу перапісвацца. Мой адрас: СССР, г. Ростов-на-Дону, ул. Вильнюсская 4, кв. 15. Хоромскому Жене.

* ❊ *

Здравствуй дорогой незнакомый друг! Пишет тебе Вадик Светличнов из Советского Союза. Я учусь во втором классе, живу в городе Куйбышеве. Этот город стоит на берегу реки Волги. Напиши мне о своём городе или селе, напиши о себе. Мой адрес: СССР, г. Куйбышев-81, ул. Нововокзальная, дом 110, 75. Индекс 443081. Светличнову Вадиму.

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka" BZGraf. P-3